# ЖАВАРАНАК

**№1**

**чэрвень 2000**

Выдаецца
культурна-асветніцкім
цэнтрам
«КАМЯНІЦА»





Тыраж 299 асобнікаў

Наш адрас:
Вул. Замкавая, 3
231400 Навагрудак
Гарадзенскай вобл.
БЕЛАРУСЬ

Тэл.\ факс (01597) 25609
e-mail:shureek2000@mail.ru

Рэдактар
Аляксандр Царук

Камп'ютарны набор, вёрстка
Кісялёва Кацярына



Нашым маленькім сябрам можа здацца, што лясныя і гарадзкія навіны, надрукаваныя ў нашым часопісе, - старыя навіны. Гэта не так. Праўда, кожны год бывае вясна, але кожны год яна новая і, колькі гадоў не жыві, не ўбачыш дзвух аднолькавых вёснаў.

Год, - што кола з дванаццаццю спіцамі - месяцамі: прамільгнуць усе дванаццаць спіцаў, кола зробіць поўны абарот - і зноў мільгане першая спіца. А кола ужо ня там - далёка пакацілася. Зноў прыдзе вясна - і лес прачнецца, вылязе з бярлогі мядзведзь, вада затопіць падвальных жыльцоў, прыляцяць птушкі. Зноў пачнуцца гульні і танцы ў птушак, народзяцца малыя дзеткі ў звяроў. І ў нашым часопісе вы знойдзеце ўсе самыя свежыя навіны пра насельнікаў лесу. Мы змяшчаем тут прыродны калянадар на кожны год. Ён мала падобны на звычайныя каляндары, але ў гэтым няма нічога дзіўнага. Бо ў звяроў і птушак усё не па нашаму; у іх і каляндар свой, асаблівы: у лесе ўсе жывуць па сонцу. За год сонца робіць шырокае кола па небе. Кожны месяц яно праходзіць адно з сузор'яў, адзін са знакаў Задыяка. У нашым, "прыродным", календары Новы год пачынаецца не зімой, а вясной, - калі сонца ўступае ў сузор"е Авена. Вясёлыя святы бываюць у лесе, калі там сустракаюць сонца; сумныя дні, - калі яго праводзяць. Месяцаў у прыродным календары мы налічылі столькі ж, колькі і ў нашым, звычайным,- дванаццаць. Але ж назвалі мы іх па іншаму - па лясному.



# Месяц птушанятаў

(другі месяц лета)

## з 21 чэрвеня па 20 ліпеня

Год, - сонечная паэма ў 12-ці месяцах. Ліпень — макушка лета — стомы не ведае, усё прыбірае. Жыта — матуля да зямлі кланяцца загадвае. Авёс ужо ў кафтане, а на грэчцы і кашулі няма.

Зялёныя расліны зрабілі з сонечнага святла свае цела. Залацістым акіян спелага жыта і пшаніцы нарыхтоўваем мы сабе ў запас на ўвесь год. Нарыхтоўваем жывёлам сена: ужо ўпалі ляса траў, усталі горы стагоў.

Пачынаюць прымаўкаць птушкі і ім ужо не да спеваў. Ва ўсіх гнёздах птушаняты. Яны нараджаюцца голенькімі, сляпымі і ім доўга яшчэ спатрэбіцца клопат бацькоў. Але зямля, вада, лес, нават паветра — усё поўна цяпер корма для маленькіх, - хопіць для ўсіх!



У лесе ўсюды поўна маленькіх сакавітых пладоў: ягады суніцы, чарніцы, парэчкі; ў садах — чарэшні, суніцы, вішні. Луга змянілі свае залатыя сукенкі на рамонкавыя: белы колер пялёсткаў адлюстроўвае гарачыя сонечныя прамені. Жыццятварэц — Ярыла — сонца ў гэтую пару не жартуе: спаліць могуць яго ласкі.









## Колькі ў каго дзяцей?

У вялікім лесе за горадам жыве маладая ласіха. У яе ў гэтым годзе нарадзіўся адзін лось.



У арла-белахвоста гняздо ў тым жа лесе.
У гняздзе два арляня.
У чыжа, зябліка, аўсянкі - па пяць птушанят.
У крупізалоўкі - восем.
У апалоўніка (доўгахвостай сініцы) - дванаццаць.
У шэрай курапаткі — дванаццаць.
У камбшкі ў гняздзе з кожнай ікрынкі выявілася па мальку — камбшонку , усяго - сотня камбшат.
У ляшча — сотня тысяч.
У мянтуза не пералічыць: пэўна, мільён малькоў.

## Беспрытульныя.

Лешч і мянтуз зусім пра сваіх дзяцей не клапоцяцца. Адклалі ікру і пайшлі. А дзеці няхай самі, як ведаюць, выводзяцца, жывуць і кормяцца. Дык як жа і быць, калі ў цябе сотні тысяч дзяцей? За ўсімі не дагледзець.



У жаб усяго адна тысяча дзяцей — і яна аб іх не думае. Вядома, беспрытульным нялёгка жывецца. Пад вадой шмат пражорлівых пачвар, і ўсе яны ласы да смачнай ікры, і да маленькіх дзетак.

Колькі гіне рыб'іх малькоў і апалонікаў, колькі небяспекі ім пагражае, пакуль яны вырастуць у вялікіх рыб і жаб, - проста падумаць [illegible]ашна!



Клапатлівыя бацькі

Ласіха і ўсе птушкі — матулі — вось ужо клапатлівыя бацькі.

Ласіха гатова жыццё аддаць за сваё адзінае дзіця, паспрабуй напасці на яе хоць сам мядзведзь; яна так пачне брыкацца і пярэднімі, і заднімі нагамі, так адробіць яго капытамі, што ў другі раз мядзведзь і блізка не сунецца да



ласёнка. Нашым карэспандэнтам папаўся ў полі курапаткін сын: з-пад самых ног у іх выскачыў і памчаўся ў траву хавацца.

Яны яго злавілі, а ён як піскне! Раптам аднекуль узнікла — маці -курапатка. Убачыла сына ў руках людзей — заметалася, заквахтала, на зямлю прыпала, крыло цягне.

Карэспандэнты падумалі, - яна параненая. Курапатчонка кінулі і за ёю пагналіся. Курапатка шкільгае па зямлі — вось-вось рукой схопіш; але толькі руку працягнеш, - яна адразу ў другі бок. Гналіся-гналіся так за курапаткай, - раптам яна крыламі запраскала, паднялася над зямлёй і паляцела, як быццам нічога не было.

Вярнуліся нашыя карэспандэнты назад — за курапатчонкам, а яго і след прастыў. Гэта знарок матуля раненай прытварылася, адводзіла ад сына, каб выратаваць яго. Яна за кожнае сваё дзіця заступаецца: у яе іх усяго толькі дваццаць.

Птушыныя працадні

Ледзь толькі стане святло — птушкі пачынаюць сваю працу.

Шпак робіць у суткі 17 гадзін, гарадзкая ластаўка — 18, свіргулі — 19, а рудахвостка — больш за 20 гадзін.

Дык меней ім працаваць і нельга. Ім жа, каб пракарміць сваіх птушанят, стрыж павінен прынесці корм за дзень не меньш 30 — 35-ці разоў, шпак — каля 200, ластаўка гарадзкая — 300, а рудахвостка — звыш 450-ці разоў!

Колькі шкодных для леса насякомых і іх лічынак знішчылі яны за лета!

Працуюць не складаючы крыл!...



## Якія вывяліся птушаняты ў бэкаса і сарыча?

Вось партрэт маленькага сарыча, які толькі што вылупіўся з яечка. На носе ў яго белая шышачка. Гэта "яечны зуб". Ім птушаня і разбівае шкарлупку, калі яму пара з яечка выхадзіць.



Сарачыня вырасце і будзе крыважэрным драпежнікам — гразой грызуноў.

А цяпер ён — забаўны малыш, увесь у пуху, напаўсляпы. Ён такі бездапаможны, такі пястун: кроку зрабіць не можа без таты і матулі. Ён памер бы з голаду, каб яны яго не кармілі. А есць і баявыя рабяты сярод птушанят. Як толькі яны вылупяцца з яечка, адразу ўскочаць на ножкі, ужо ежу самі сабе здабываюць, вады не пужаюцца, ад ворагаў самі хаваюцца.

Вось сядзяць два бэкасёнка. Яны толькі дзень як з яечка, а ўжо і гняздо сваё кінулі, самі сабе шукаюць ежу. Пагэтаму ў бэкаса такія вялікія яйкі, што бэкасяты ў іх могуць падрастаць.

Курапаткін сын, аб якім мы цяпер расказвалі, таксама баявы. Толькі што нарадзіўся, а ўжо бяжыць з усіх ног.

Вось яшчэ дзікае качаня - савук. Ён, як толькі на свет з'явіўся, так адразу ж зачыгікаў да рэчкі, боўць ў ваду і купацца. Ён і нырацы ужо ўмее і пацягваецца, прыпадняцца на вадзе- зусім як вялікі.

А падкарышнікава дачка — жахлівая пястуха. Цэлых два тыдні ў гняздзе прасядзела, цяпер выляцела і сядзіць на пні. Вось як надзьмулася: незадаволена, што маці доўга не ляціць з кормам.

## Калонія на востраве



На выспе вострава жывуць на дачы маленькія чайкі. Па начах яны спяць у пясчаных лунках (ямінках) — па троіх у луніцы. Уся водмель у лунках- такая вялікая калонія чаек.

Удзень яны вучацца лятаць, плаваць і лавіць дробную рыбку пад кіраўніцтвам старэйшых. Старыя чайкі вучаць і пільна ахоўваюць сваіх дзяцей. Калі набліжаецца вораг, яны злятаюцца зграяй і кідаюцца на яго з гэткім крыкам і гоманам, што кожнаму страшна зробіцца. Нават вялізны марскі арол-белахвост спяшыць уцячы ад іх далей.



Шывварат — навыварат

З розных мясцін нам пішуць аб сустрэчы з дзіўнай птушкай. Вельмі мілая прыбраная птушка, падобная на тыя яркія паплаўкі, што ў гарадах прадаюць маладым вудзільшчыкам. І такая даверлівая, што - падыдзі хаця на пяць крокаў - так і будзе плаваць перад табою каля самага берагу, ніколячкі не забаіцца.
Усе другія птушкі зараз на гнёздах сядзяць ці птушанят водзяць, а гэтыя збяруцца ў зграі і вандроўнічаюць. Дзіўосна, што гэтыя яркія прыгожыя птушкі - самачкі. Ва ўсіх другіх птушак самцы яркія, прыгажэйшыя за самак, а ў гэтых наадварот: самцы шэрыя, а самкі стракатыя. Яшчэ больш дзіўна, што гэтыя самачкі не клапоцяцца аб сваіх дзецях. Самка на поўначы, у тундры, яны знеслі яечкі ў ямку- і да пабачэння! А самцы засталіся там, кармяць і берагчы птушанят.



## Лясныя здарэнні

### Страшэннае птушаня

У тоненькіх, пяшчотных сітавак у гняздзе вывелася шэсць малюсенькіх голых птушанят. Пяцёра - птушаняты як птушаняты, а шосты - вырадак: увесь нейкі грубы, жылісты, велькагаловы, зачыненыя плеўкай вочы лупатыя, а дзюбу адчыніць - адхіснешся: там цэлая пашча раззявіцца - прорва. Першы дзень ён праляжаў у гняздзе спакойна. Толькі калі сітаўкі падлятали з кормам, з цяжкасцю падымаў сваю тоўстую галаву, слаба пішчаў і раззяўляў рот,- карміце! На другі дзень у ранішнім халадку, калі бацькі паляцелі за кормам ён заварушыўся. Ён апусціў галаву, упнуўся ёю ў дно гнязда, шырока раставіў ногі і пачаў падавацца. Наехаў задам на братка-птушаня і пачаў падкапывацца пад яго. Закінуў назад свае крывыя голыя куксы-крыльцы, абхапіў імі братка, сціснуў, як кляшнямі,- і з птушанятамі на гершках усе задам, задам пачаў пасоўвацца да сцяны.

У ямцы на канцы яго спіны браток-птушаня — маленькі, слабы, сляпы- боўтаўся як ў лыжке. А вырадак, упінаўся галавой і нагамі, падымаў яго ўсё вышэй і вышэй,- пакуль птушаня не аказалася каля самага краю.

Тады, увесь напружыўся, вырадак раптам рэзка ўскінуў задам,- і птушаня паляцеў з гнязда.

Гняздо сітавак было ў абрыве над берагам рэкі.

Малюсенькая голая сітаўка шлёпнулася ўнізе аб гальку- і разбілася насмерць.
А злосны вырадак, сам ледзь не выпаў з гнязда, павагаўся, павагаўся з краю



І — Месяц абуджэння ад Спячкі (першы месяц вясны) з 21 лютага па 20 сакавіка.

ІІ — Месяц Вяртанне Пералётных на Радзіму (другі месяц вясны) —
з 21 сакавіка па 20 красавіка.

ІІІ — Месяц Песень і Скокаў (трэці месяц вясны) — з 21 красавіка па 20 траўня.

ІV — Месяц Гнёздаў (першы месяц лета) — з 21 траўня па 20 чэрвеня.

V — Месяц Птушанят (другі месяц лета) — 21 чэрвеня па 20 ліпеня.

VІ — Месяц Зграй (трэці месяц лета) — з 21 ліпеня па 20 жніўня.

VІІ — Месяц Развітання Пералётных з Радзімай (першы месяц восені) — з 21 жніўня па 20 — верасня.

VІІІ — Месяц Поўных Кладовых (другі месяц восені) — з 21 верасня па 20 кастрычніка.

ІX — Месяц Зімовых Гасцёў (трэці месяц восені) — з 21 кастрычніка па 20 лістапада.

X — Месяц Першых Белых Сцяжынкаў (першы месяц зімы) — з 21лістапада па 20 снежня.

XІ — Месяц Лютага Голада (другі месяц зімы) — з 21 снежня па 20 студзеня.

XІІ — Месяц Датрывай да Вясны (трэці месяц зімы) — з 21 студзеня па 20 лютага.



яго,- але тоўстая галава пераважыла,- ён зваліўся назад у гняздо.

Уся гэта страшэнная справа працягвалася дзве- тры хвілінкі. Потым вырадак, абяссілены, з чвэрць гадзіны нерухома ляжаў у гняздзе. Прыляцелі бацькі. Ён падняў на жылістай шыі сваю цяжкую сляпую галаву і, як ні ў чым не бывала, раззявіў рот, запішчаў,- карміце!

Паеў, аддыхнуў - і пачаў пад'язжаць пад другога братка. З гэтым яму не атрымалася так лёхка справіцца: птушаня моцна боўталася і скочвалася з яго спіны. Але вырадак не ўціхаміруўся. І праз пяць дзён, калі ў яго прарэзаліся вочы, ён убачыў, што ляжыць адзін у гняздзе: усіх сваіх птушанят-братоў ён выкінуў прэч і забіў. Толькі на дванаццаты дзень ад нараджэння ён, нарэшце, пакрыўся пер'ямі,- і тады стала ясна, што сітаўкі на сваё гора выкармілі падкідыша-зязюлянё. Але пішчаў ён так жалобна, так падобна на на іх уласных загінуўшых дзяцей, так дагодліва, дрыжа крыламі, прасіў есці, што тоненькія, пяшчотныя птушкі не змаглі яму адмовіць, не маглі кінуць яго паміраць з голаду. Самі жывучыя надгаладзя, у клопатах не паспяваючы наесціся ўволю, яны з усходу да захаду сонца цягалі яму тлустых вусяніц у яго шырокую пашу, тачылі ежу ў яго пражэрлівае горла- прорву.

Да восені яны яго выкармілі. Ён паляцеў ад іх і болей ніколі ў жыцці не сустрэнецца з імі.

## Купанне медзведзянятаў

Наш знаёмы ішоў па беразе лясное рачулкі і раптам пачуў гучны троскат сучча. Ён спалохаўся і палез на дрэва. З гушчару выйшлі на бераг вялікая бурая мядзведзіца, з ёй два вясёлых медзведзянятаў і пястун - яе гадавалы сын, мядзведжая нянька. Мядзведзіца села. Пястун схапіў аднаго медзведзяня зубамі за каўнёр і давай купаць яго ў рэчцы. Медзведзяня вішчаў і боўтаўся, але пястун не адпускаў яго, пакуль добра не выпаласкаў у вадзе. Другое медзведзяня спалохалася халоднай ванны і пусцілася наўцёкі ў лес. Пястун дагнаў яго,









надаваў плескачоў, а потым – у ваду, як першага. Паласкаў, паласкаў яго, ды незнарокам і ўпусціў у ваду. Медзведзяня як зараве! Тут у адзін момант падскочыла мядзведзіца, выцягнула сынка на бераг, а нястуну такіх поўх надавала, што ён, бедны, узвыў. Апынуўшыся ізноў на зямлі, абодва медзведзяняты засталіся вельмі здаволенымі купаннем: дзень быў гарачы і ім было вельмі горача ў густых лахматых футрах. Вада добра асвяжыла іх. Пасля купання мядзведзі ізноў схаваліся ў лесе, а наш знаёмы злез з дрэва і пайшоў да хаты.

Ягады

Паспела шмат розных ягад. У садах збіраюць маліну, чырвоную і чорную парэчку, агрэст. Маліны знаходзяць і ў лесе. Яна расце зараснікам. Не прабярэшся, не зламаўшы яе ломкага сцябла. Усё патрэсквае пад нагамі. Але для малін гэта не страта. Гэтыя сцябліны, на якіх зараз вісяць ягады, пражывуць толькі да зімы. А вось іх насенне. Вось колькі вылязла з-пад зямлі ад каранішча маладых сцяблінак. Махнатыя, усе ўсеяны шыпамі. На наступнае лета наступіць іх чарга цвісці і вырошчваць ягады.



Па кустарніках і купінах, на вырубках каля пнёў паспелі брусніцы, ягады ўжо з чырвоным бачком. Яны ў брусніцы кучкамі на верхавінах сцяблін. На некаторых кустах гэтыя кучкі такія буйныя, шчыльныя, цяжкія, прыгнуліся і ляжаць на імку. Хацелася б выкапаць такі куст, перасадзіць да сябе і даглядаць,- зробяцца ягады яшчэ байчэй? Але пакуль яшчэ брусніцы "у няволі", не атрымліваецца. А яна цікавая ягада. Яе ягады можна захоўваць для ежы ўсю зіму, толькі заліць кіпячонаю вадою, ці патаўчы, каб выступіў сок. Чаму яна не гніе? У ёй ёсць бянзойная кіслата. А бянзойная кіслата не дае ягадам гнісці.

Кашачы гадаванец

У нашай кошкі вясною нарадзіліся кацяняты, але іх у яе адабралі. Як раз у гэты дзень мы злавілі ў лесе маленькае зайчаня. Мы ўзялі ды падлажылі яго кошцы. У яе было шмат малака, і кошка з ахвотаю стала карміць зайчаня. Так зайчаня і вырасла на кашачым малаке. Яны вельмі пасябравалі і нават спяць заўсёды разам. Смяшней за ўсё тое, што кошка навучыла зайчаня-прыёмыша біцца з сабакамі. Як толькі сабака










забяжыць да нас на двор, кошка кідаецца на яе і люта драпае. А ўслед за ёй падбягае заяц і так барабаніць пярэднімі лапамі, што ў сабакі шэрсць касмыкамі ляціць. Усе сабакі вакол баяцца нашай кошкі і яе гадаванца-зайца.

## Фокус маленькіх кругізаловак

Наша кошка убачыла на дрэве дупло і падумала, што там гняздо якой-небудзь птушкі. Яна захацела з'есці птушанят, палезла на дрэва, прасунула галаву ў дупло і бачыць на дне дупла гадзючата шавеляцца — выгінаюцца. Ды як зашыпяць! Кошка спужалася, прыг з дрэва, толькі б ногі вынесці! А ў дупле былі зусім не гадзючаняты, а птушаняты кругізалоўкі. Гэта ў іх фокус такі, каб ад ворагаў бараніцца: галовамі, шыямі кругяць,- шыі ў іх, як змейкі, выгінаюцца. Ды пры гэтым яны яшчэ і шыпяць па гадзючы. Ядавітых гадзюкаў усякі баіцца. Вось маленькія кругізалоўкі і пераймаюць у гадзюкі, каб ворагаў палохаць.



## Пакінулі з носам

Велькі сарыч выглядзеў цяцерку з цэлым вывадкам жоўценькіх пушыстых цецярукоў. Вось, думае, паснедаю. Ён ужо нацэліўся было ўдарыць па іх зверху, дык тут цяцерка і ўбачыла яго. Яна крыкнула,- і ўсе цецярукі ў адно імгненне зніклі. Сарыч глядзеў-глядзеў,- няма ніводнага, як скрозь зямлю праваліліся! Паляцеў другі здабычы сабе на абед шукаць. Тады цяцерка ізноў крыкнула,- і кругом яе паўскакалі на ножкі жоўценькія пушыстыя цецярукі. Нікуды яны не праваліліся, а тут жа і ляжалі, шчыльна прытуліўшыся да зямлі. Паспрабуй распазнаць іх зверху ад лісцяў, травы і камякоў зямлі.



## Драпежная кветка

Лятаў-лятаў камарык у лесе па-над балотам - і стаміўся, піць захацеў. Бачыць — кветка: сцябло зялёнае, на версе - маленькія белыя званочкі, унізе - круглыя барвовыя лісты разеткаю кругом сцябла. На лістах раснічкі, на раснічках блішчаць светлыя кропелькі расы. Камарык сеў на лісточак, апусціў нос у кропельку, а кропелька тая - ліпкая, клейкая, уліп камарыны нос. Раптам раснічкі ўсе заруха́ліся, пацягнуліся, як шчупальцы - схапілі камарыка. Зачыніўся круглы лісточак,- і няма камарыка.



А калі потым ізноў расчыніўся лісток,- упала на зямлю парожняя камарыная



скурка: кветка выпіла ўсю камарыную кроў.

Гэта страшэнная кветка, драпежная кветка — загартушка. Яна ловіць маленькіх насякомых і есць іх.

## Бойка пад вадой

Падводныя рабяты таксама любяць біцца, як і тыя, што жывуць на зямлі. Два жабянятькі далі нырца ў сажалку і ўбачылі там дзіўнага даўгавязага апалоніка-трытона з чатырмя кароткімі лапкамі. "Вось смешны вырадак!- падумалі жабяняты.- Трэба яму даць дыхту". Адно жабяня схапіў апалоніка за хвост, а другі за правую пярэднюю нагу. Ірванулі,- нага і хвост засталіся ў іх, а апалонік уцёк. Праз некальні дзён жабяняты ізноў сустрэлі гэтага трытончыка пад вадой. Цяпер ужо гэта быў сапраўдны вырадак: замест хваста ў яго вырасла лапа, а замест адарванай лапы - хвост. У трытонаў ящчэ лепей, чым у яшчаркі, адрашчваюцца хвасты, адрашчваюцца адарваныя лапкі. Аднак часам атрымліваецца блытаніца, і замест адарванай часткі ў іх вырастае другая, да гэтага месца не падыходзячая.





## Ні вецер, ні птушкі, а вада

Мне хацелася расказаць аб расходніке, калі ён яшчэ цвіў. Надта кахаю гэтую маленькую раслінку. Асабіста мне падабаюцца яго тоўсценькія ўспухлыя шэра-зялёныя лісточкі, якія сядзяць на сцяблу так густа, што яго і не відаць. І кветкі расходніка добрыя і яркія пяцівугольныя зорачкі. Але цяпер іх ужо няма. Замест іх плады, таксама плоскія пяцівугольныя зорачкі. Яны шчыльна зачынены. Але гэта не значыць, што насенне не паспела. Плады расходніка ў ясны дзень заўсёды зачынены. Зараз я прымушу іх расчыніцца. Прынесці толькі з лужы крышачку вады. Адной кропелькі хопіць. Вось яна як раз трапіла на сярэдзіну зорачкі. І я свайго дабілася: лісточкі плада пачалі разгортвацца. Вось паказалася насенне. Яны ад вады не хаваюцца, як насенне шматлікіх раслін; яны выходзяць ёй насустрач. Яшчэ дзве кропелькі,- і насенне паплыло. Вада іх падхапіла, панясе і пасее. Ні вецер, ні птушкі, ні жывёлы дапамагаюць расходніку рассейваць насенне, а вада. Я бачыла расходнік у шчыліне на адвеснай сцяне яра. Гэта дождж, сцякаючы па сцяне, занёс туды яго насенне.











Я пайшоў на возера купацца. Бачу нырэц вучыць сваіх дзетак уплываць ад людзей. Нырэц плыве, як лодка, а яны ныраюць. Яны нырнуць, а ён на тое месца прыплыве і глядзіць па старанах. Нарэшце, яны выныраюць каля чарота, заплылі ў чарот, а я пачаў купацца.

## Надзвычайны плодзік

Бусельнік, у яго такія надзвычайныя плодзікі,- пустазелле. Ён расце на агародах. Гэта несамавітая шурпатая расліна з простымі малінавымі кветкамі. Цяпер частка з іх паспела адцвісці, і на іх месцы з кожнай чашачкі тарчыць "дзюба бусла". Кожная дзюба - гэта пяць зрэсшыхся хвастамі плодзікаў. Іх лёгка раз'яднаць. І вось ён славутны вастраносы, хвастаты плодзік бусліка. Хвост на канцы загнуты сярпом, а ніжэй скручаны шрубам. Гэты шруб ад сырасці раскручваецца. Палажу плодзік паміж далонямі, падыхаю. Закруціўся, заказытаў. І сапраўды, няма болей шруба,- раскруціўся. Але вось паляжаў крыху на далоні і ізноў закручваецца. Дзеля чаго расліне такі фокус? А вось: падае, плодзік утыкаецца ў зямлю, а яго хвост чапляецца канцом-сярпом за травінкі. У сырое надвор'е шруб увінчваецца ў зямлю. А назад ходу няма: шчацінкі не пускаюць, яны тырчаць уверх, упіраюцца ў зямлю і непускаюць. Вось як хітра: сама расліна сваё насенне ў зямлю садзіць! А да чаго чуллівы хвосцік бусленіка, відаць з таго, што імі раней карысталіся для гідрометраў - прыбораў, мераючых вільготнасць паветры. Плодзік умацуюць нерухома, а хвосцік служыць, рухаецца і паказвае на адлікі, якая вільготнасць.



## Коўрыкі

Я ішоў берагам ракі, гляджу - на вадзе не то качаняты, не то хто другі, на качанят не падобныя. Думаю, хто ж гэта такія,- у качанят насы плоскія, а ў гэтых насы вострыя? Я жвава распрануўся і паплыў за качкамі. Яны ад мяне на другі бераг, я за імі. Вось толькі злавіць,- яны



назад да берага! Я за імі,- яны ад мяне. Яны мяне так змучылі,- ледзь даплыў да берага! Так і не зла віў. А пасля шмат разоў бачыў іх, але ўжо не плаваў за імі. А гэта аказалася не качанняты, а коўры дзеці - коўрыкі.



АДКАЖЫ І НАМАЛЮЙ

1. Калі ў птушак бывае зуб?
2. Якая карова сытней жыве — хвастатая ці бясхвостая?
3. Чаму павуку далі назву "сенакосец"?
4. У які час года драпежным звярам і птушкам сытней за ўсё жывецца?
5. Хто двойчы родзіцца, адзін раз памірае?
6. Чаму гавораць: "Як з гуся вада"?
7. Хто тройчы родзіцца, пакуль стане дарослым?
8. Чаму сабака, калі ёй горача, высоўвае язык, а конь не?
9. Птушаняты якой птушкі не ведаюць сваёй матулі?
10. Птушаняты якой птушкі шыпяць з дупла як змеі?
11. Як адрозніць старога і маладога грака па іх насам?
12. Якая рыба клапоціцца, аб сваіх маленькіх, пакуль яны не вырастуць?
13. Што зробіцца з пчалой пасля таго, як яна дасць джала?
14. Чым харчуюцца нованароджаныя кажаны?
15. Куды "тварам" схілена галоўка сланечніка ў поўдзень?
16. Ходзіць тур па гарах, а турыха па мяжы; тур крыкне, а турыха міргане?.
17. Раніцай поле блакітнае, за поўдзень зялёнае?
18. Стаяць старэнькія ў чырвоных капялюшах, хто падыдзе, той і нахіліцца?
19. Сядзіць на палачцы ў чырвонай сарочцы, пуза светлае, каменьчыкамі набіта?
20. З куста шып за нагу цяп?
21. Спіць на зямлі, а раніцай знікае?
22. Хто ў лесе бяз тапароў будуе хату бяз вуглоў?
23. Вочы на рагах, а хата на спіне?
24. Кветкі анёлкавыя, а кіцюры д'яблаў?

АДКАЗЫ І МАЛЮНКІ, КАЛІ ЛАСКА, ДАШЛІ Ў РЭДАКЦЫЮ.



